Цана асобнага нумару 15 гр. | Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 55 (106). Вільня, Субота 16 Ліпня 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі

ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Урад бяз Сойму.

Перад Вялікаднем, у самы найцікавейшы момант працы Сойму, калі Сойм разглядаў самаўрадавыя законы, зьявіўся неўспадзеўкі дэкрэт Прэзыдэнта аб зачыненьні соймавай сэсіі. Паслы пакінулі распачатую працу і паехалі на Вялікодныя сьвяты. Аднак гэтыя сьвяты для паслоў цягнуліся вельмі доўга, бо прайшло каля двух месяцаў і нічога ня было чуваць аб склікан ьні Сойму. Сярод „працавітых“ польскіх паслоў на‘т паўставалі думкі аб зложэньні Прэзыдэнту заявы, падпісанай 1/3 часткай усіх паслоў, з жаданьнем скліканьня Сойму. Не чакаючы на гэта, урад праз Прэзыдэнта склікаў Сойм. Пакуль Сойм разглядаў мала важныя справы, усё было добра,—урад не мяшаў у працы Сойму. Але вось, Сойм ізноў вярнуўся да папярэдніх самаўрадавых законаў, да справы зьмены выбарнага закону, да разгляду выданых Прэзыдэнтам дэкрэтаў і прыняў на‘т на пленарным паседжаньні ўставу аб зьмене канстытуцыі, надаючы права Сойму развязаць сябе пры помачы ўласнай пастановы. Ува ўсей гэтай апошняй працы ўрад не прыймаў ніякага ўдзелу, дык можна было прадбачыць, што нічога рэальнага ня выйдзе з працы Сойму. Мала таго, што ўрад не прыймаў удзелу ў працы Сойму, ягоная праца была скіравана проці ўраду, бо на соймавай камісіі ўжо быў прыняты закон аб скасаваньні і другога дэкрэту Прэзыдэнта аб прэсавым праве, якое ёсьць, трэба адцеміць, вельмі драконаўскае, бо ўводзе нязвычайна вялікія кары на рэдактараў. Вось гэтая непашана Соймам дэкрэтаў Прэзыдэнта, ёсьць ведама, тым самым адклікнулася і ў урадзе. Урад не пашанаваў і працы Сойму: у момант разгару працы ізноў зачыніў сэсію Сойму і Сэнату і на‘т не дазволіў Сэнату разгледзіць прыняты Соймам закон аб зьмене канстытуцыі, што надае права Сойму самому развязаць сябе.

З гэтага ўсяго бачым, што польскі ўрад ня хоча, каб Сойм перапрацоўваўся, склікае яго толькі для формы і падсувае яму на разгляд мала важныя справы і вельмі ня любіць ўставадаўчай ініцыятывы Сойму. Усе праекты Сойму аказаліся не праведзенымі, бо ўрад не хацеў іх правесьці. Польскі ўрад Пілсудскага не прызнае супрацоўніцтва з Соймам; ня дарма была праліта кроў, каб пасьля поўтысячы трупаў новаму ўраду ізноў слухаць таго самага Сойму! Калі ёсьць такая няласка ўраду да Сойму, дык навошта-ж трымаць такі Сойм? Чаму ўрад адразу яго не развязаў? Ня трудна знайсьці адказы на гэтыя пытаньні: больш як падобна праўдзе, уся гэтая канстытуцыйная камэдыя іграецца толькі дзеля таго, што ўрад, які дайшоў да ўлады па трупах уласных грамадзян, ня хоча расстацца з уладаю. Каб быў распушчаны Сойм і адбыліся новыя выбары, дык новавыбраны Сойм, як яшчэ не скампрамітаваны, мог-бы зажадаць сваіх сувэрэнных правоў і на‘т выказаць недавер ураду, што магло-б выклікаць дымісію ўраду. Мала таго, што ўрад праз Прэзыдэнта не развязаў Сойму, урад Пілсудскага не дазволіў Сойму правесьці закону аб зьмене канстытуцыі, што надаваў-бы права Сойму развязаць сябе пры помачы ўласнай пастановы. Калі-б такі закон, прыняты ўжо Соймам, прайшоў праз Сэнат і пасьля Сойм сам сябе развязаў, то гэтым самым мог-бы падняць шмат свой аўтарытэт сярод выбаршчыка. Але да гэтага ўрад не дапусьціў. Паўстала дзіўная сытуацыя непрактыкаваная ў ніводнай дэмакратычнай дзяржаве. Там заўсёды, у выпадку канфлікту між урадам і парляманам, або ўрад уступае, або развязвае парлямант. У Польшчы-ж усё наадварот. Канфлікт між Соймам і ўрадам фактычна ўжо істнуе больш за год, аднак як урад, так і Сойм астаюцца на сваіх мясцох.

З усяго вышэй зьмешчанага можна зрабіць адзін вывад: урад, прыкрываючыся канстытуцыяў, фактычна замацоўвае за сабой правы дыктатара. Дыктатура асоб і бюракрацыі, рэкрутаванай з пілсудчыкаў, мае быць процістаўлена волі сярмяжнага народу. Праўда, гэты сярмяжны народ у Польшчы дагэтуль быў абаламучаны праз польскі клер і эндэцыю, аднак, калі-б на‘т прышла цьвярозасьць у голавы працоўных масаў, дык на аснове цяперашней польскай канстытуцыі, польскі пасьлямаёвы ўрад п. Пілсудскага не адасьць дабравольна ўлады выбранцаў сялян і работнікаў.

Беларусам, як пераважна сярмяжнаму сялянству, аб гэтым трэба ведаць і быць прыгатаваным на ўсялякія гістарычныя выпадкі, якіх можам быць сведкамі.

## Аб выбарах у соймікі.

Выбары ў самаўрады ў некаторых паветах ужо закончаны. Чытаючы справаздачы з выбараў, ясна відаць, што сялянскія масы зразумелі сваю задачу, пашлі дружным, адзіным нацыянальным фронтам да выбараў і перамаглі. Ня гледзячы на нашу цемнату і ўсялякія подступы, а часам і рэпрэсіі з боку ўладаў і паноў, у гмінныя рады прайшло больш як 80% сялян-Беларусаў. На жаль мусімо прызнацца, што лік зусім сьведамых Беларусаў, грамадзкіх працаўнікоў у гэтых 80% выбраных невялікі. І вось далейшая праца гэтых самаўрадаў, далейшая арганізацыя сялянскіх масаў у галіне гаспадарчай і культурнай, усім сваім цяжарам лажыцца на гэтых сьведамых адзінак. Самарада гмінная вельмі мала што можа зрабіць добрага для жыхараў гміны. Праца яе заўсёды была і ёсьць вельмі абмежавана ўсялякімі „okólnikami, artykułami i przepisami“, а найбольш капрызамі п. старасты навятовага, які ёсьць адначасна старшынёй павятовага самаўраду (сойміку).

Хоць пагаворка кажа, што аб памёршым або нічога ня трэба гаварыць, або толькі добрае, але бяручы пад увагу, што на абмылках старых вучацца маладыя, мусімо сказаць, што дасюляшнія соймікі, акрамя благога, нічога добрага для нас не зрабілі. Складаліся яны пераважна з людзей нясьведамых, з якімі ўрадаўцы соймікавыя і п. стараста рабілі што толькі хацелі, або з пераважнай часткай Палякаў-абшарнікаў, каторыя пэўна-ж не парупіліся, каб зрабіць што добрае для селяніна.

Там было такое выкарыстоўваньне гэтых цёмных нясьведамых прадстаўнікаў праз ураdaўцаў і старшыню сойміку, што проста не хапала крытыкі і насоўвалася пытаньне, чаму пракуратура туды не загляне?

Вось затым галоўнай задачай цяперашніх гмінных радаў, павінна стацца задача—выбраць найсьведамлейшых сяброў, найлепшых грамадзян ў павятовыя соймікі, бо трэба ведаць, што соймік павятовы зьяўляецца адзінкай да голасу, каторага трохі прыслухоўваюцца, каторы ў галіне гаспадарчай і культурнай мае вельмі шырокае поле да працы, ад каторага блізу ўсё, у ўспомненай галіне, залежыць. Сялянскія масы зразумелі арганізацыю, пашлі супольным нацыянальным фронтам да выбараў рад гмінных, дык на вас рады гмінныя, як на прадстаўніках мас, ляжыць абавязак апраўдаць іх давер, зрабіць усё магчымае, каб новыя соймікі павятовыя ня былі тым аружжам для п. п. старастаў і ўрадаўцаў, якім зьяўляюцца кляшчы для каваля, або качарга ў руках гаспадыні.

**Жылгуць.**

*Сяляне! Арганізуйцеся, у арганізацыі—сіла!*

## Кітайскія падзеі.

Галоўных аружных сілаў у Кітаі ёсьць тры. Першае пэкінскае—пад дыктатураю Чанг-Тсо-Ліна, самае буржуазнае і ўгодніцкае з чужаземны капіталістымі; другое — нанкінскае, пад фактычпым кіраўніцтвам ген. Чанг-Кай-Шэка, нацыяналістычнае, незалежніцкае і трэцяе ханькаўскае — саветафільскае, камуністычнае. І вось, гэтыя тры сілі змагаюць адна другую. Дык апошнімі часамі стварылася гэтак:

Ген. Чанг-Кай-Шэк і яго прыяцель ген. Фэнг, пакінуўшы ў спакоі ханькоўцаў, наваліўся на Чанг-Тсо-Ліна і добра яго патрапалі, а тымчасам ханькаўскі ўрад пачаў шыкавацца, каб абодвых змахнуць сваею чырвонаю рукою. Ясна, што гэта заўважыў Чанг-Кай-Шэк, дык пакінуўшы свайго прыяцеля Фэнга дабіваць Чанг-Тсо-Ліна, сам адвярнуўся на Ханькоў. Якія будуць пасьпехі і чые, гадаць цяжка. Нічога ў хвялях ня відаць!... Але як бачым, дык кітайскі крывавы кацёл кіпіць.

Сярод самых Ханькаўцаў таксама нялад. Куомінтанг—лявіца, якая пакахалася з камуністымі, выключыла са сваіх радоў тав. Сунфо, сына Сун-Ят-Сэна, які заснаваў і быў лідэрам гэтая ўсяе партыі Куомітангу.

Дык вось сёньня аб кітайскіх падзеях—усё...

# Дзіўная гармонія.

Ад самага пачатку залажэньня Беларускага Сялянскага Саюзу, газэты з лагеру „Нашай Праўды“ абурыліся на арганізатараў і цьвярдзілі, што сялянства ня трэба арганізаваць, што аб сялянах быццам будуць дбаць работніцкія арганізацыі, што быццам арганізацыя сялянства пойдзе проці работнікаў і гэтым самым будзе разьбівацца адзіны фронт працоўных. Усе неабаснованыя падобныя закіды, у сваім часе былі важкімі аргумэнтамі „Сялянскае Нівы“ разьбіты, бо былі яны чыстым выдумам нашапраўдаўскіх пісакаў, якія баяліся арганізацыі вёскі. За час істнаваньня Саюзу выясьнілася, што Саюз мае на мэце абарону інтарэсаў працоўнага сялянства, што ён імкнецца да сялянска-работніцкай улады. Усе свае ідэалы Саюз імкнецца здабыць сваімі ўласнымі рукамі, дарогай супольнага змаганьня беларускіх сялян і работнікаў, падзяліўшы ў гэтай барацьбе між сабой ролі так, каб нікому ня было крыўды і ў рэзультаце, каб сяляне дасталі зямлю бяз выкупу, а работнікі фабрыкі. Гэты выразны шлях барацьбы, апёрты на сіле Беларускага Народу арганізаванага з аднаго боку ў работніцкія арганізацыі, выключаючы дапамогу чужынцаў, бо яна заўсёды бывае юдашоўскай, ашуканскай, — пачаў паступлова прыхіляць на свой бок беларускае сялянства. Кожны селянін зразумеў, што толькі арганізаванае сялянства можа мець сілу. Калі работнікі наагул ужо даўно пачалі арганізавацца і ўжо прадстаўляюць пэўную сілу, дык каб дабіцца сялянска-работніцкай улады, сяляне таксама павінны арганізавацца, бо інакш гэтая сялянска-работніцкая ўлада ня прыдзе, бо з неба ня зваліцца. Гэтую ўладу трэба здабываць. А хто-ж яе павінен здабываць? Ёсьць ведама, арганізаваныя сяляне і арганізаваныя работнікі. Буржуазія гэтакай улады не падорыць працоўным гушчам, бо гэтым самым падпіша ня сябе сьмяротны прыгавар, ды самі беларускія работнікі ня змогуць здабыць сялянска-работніцкай улады, бо на Беларусі лік работнікаў вельмі невялікі, выносе толькі некалькі працэнтаў, тады, калі сялянства даходзе да 85 працэнтаў.

Вось гэтыя даныя ясна гавораць за тое, што сялянска-работніцкая ўлада можа быць здабыта толькі самымі арганізаванымі сялянамі і арганізаванымі работнікамі пры супольнай і дружнай барацьбе з нашымі ворагамі, ворагамі працоўных і ворагамі беларускага адраджэньня.

Вось гэта наш шлях, нашыя мэты. Мэты і шлях Беларускага Сялянскага Саюзу пачалі захопліваць сялянства, якое пайшло за правадырамі Саюзу.

Баючыся адраджэньня Беларускага Народу і вызваленьня сялянства з путаў няволі, якое можа быць здабыта беларускімі сялянамі і работнікамі, маскоўская і польская дэфэнзыва пачала шукаць спосабу, каб недапусьціць беларускае сялянства да арганізацыі. Правакатарская роля Ваявудзкага, Луцкевіча, Паўлюкевіча і іншых у беларускім руху і далейшыя арышты паслоў, дзеячоў і сялян выявіла, што дэфэнзыва пажала добры ўраджай коштам беларускага адраджэнскага руху і коштам нашага сялянства. Аб правакацыйнай ролі ўсіх вышэй паданых асоб „Сялянская Ніва“ пісала далёка раней перад выпадкамі студнёвымі, якія былі відавочны на палітычным гарызонце і якія пацьвердзілі ўсе вывады „Сялянскае Нівы“. Аднак ня гледзячы на гэтыя выпадкі, якія раскрылі вочы ўсяму беларускаму сялянству, тыя самыя дэфэнзывы не закінулі свае работы і пад рожнымі відамі і далей вядуць сваё разбурэньне ў беларускім адраджэнскім руху. Даволі ўзяць у рукі г. зв. „Беларускае Слова“, „Нашу Праўду“ і іншыя, каб праканацца, што ідзе тая самая разбураючая работа, што вялася дэфэнзывамі да студнёвых выпадкаў. Усе гэтыя часопісі, як згаворанымя, нападаюць на Беларускі Сялянскі Саюз і робяць рожныя фальшывыя закіды, то ў нейкім быццам палянафільстве, то ў буржуазнасьці, то ў чорнасоценнай расейшчыне і інш.

Мала гэтага, падкупляюць „навучонага спадара“, які, дзякуючы палітычнай нясьпеласьці, пайшоў на'т на тое, каб выдаць аднаднёўку і ахрысьціць яе выданьнем Беларускага Сялянскага Саюзу. А бурыцелі—Луцкевіч і Паўлюкевіч, на аснове спадаровай аднаднёўкі, цешацца і хваляць у сваіх часопісях, „навучонага“ палітычнага недавука, называючы яго ідэйным і асабіста „чэсным“.

З гэтага ўсяго бачым, што калі ходзе аб разбураньне беларускага нацыянальнага сялянскага руху між маскоўскай і варшаўскай дэфэнзывай пануе дзіўная гармонія: як „Наша Праўда“ так і „Бел. Слова“ хваляць усякія праявы, якія толькі могуць пашкодзіць арганізацыі сялянства. Але надзеі правакатараў ужо ня споўняцца. Сялянства зразумела, што толькі яно само пры помачы сваей клясавай арганізацыі можа вызваліцца з няволі.

Дык няхай жыве беларускае сялянства!
Няхай жыве Беларускі Сялянскі Саюз!

**А. Праўдзівы.**

# Англія і Эгіпет.

Нядаўна між Англіяй і Эгіптам паўстала непаразуменьне, аднак-жа яно хутка было зьліквідавана, бо Англія пайшла на уступкі адносна Эгіпту, які находзіцца ад яе ў нейкай залежнасьці і вось, для характарыстыкі англа-эгіпскіх адносінаў і формы залежнасьці Эгіпта ад Англіі, падаем нарыс з Лёндану карэспандэнта газэты „Сегодня“.

„У Англію прыехаў эгіпецкі кароль Фуад, значачы сваім прыездам, што востры канфлікт, які паўстаў паміж Англіяй і Эгіптам зьліквідаваны ці блізкі да развязаньня. Фуада спаткалі надзвычай урачыста не як васала (пад'уладнага), хоць бы нават і „паважанага“, а як караля незалежнае і прыяцельскае дзяржавы. Уся цэрамонія спатканьня, як відаць, старанна была абдумана гэтак, каб падкрэсліць правы незалежнасьці Эгіпту і абезаружыць крайніх эгіпецкіх нацыяналістых. Фуад прыехаў з Францыі на звычайным пасажырскім караблі, але на паўдарозе быў спатканы флатыліей ангельскіх крэйсэраў, якія аддалі Фуаду каралеўскі салют. У Дуары на набярэжнай спаткаў Фуада прынц Валійскі (сын ангельскага караля), а ў Лёндане на спатканьне прыехаў на станцыю сам кароль Юры V і ўвесь кабінэт міністраў. У лёнданскіх газэтах, мы бачым доўгую праграму банкетаў на чэсць Фуада: банкет у Букінгэмскім дварцы, банкет у лёрд-мэра, вялікі банкет у Эгіпецкім пасольстве“.

„Прыезд караля Фуада у Англію і урачысты прыём выказаны яму, як відаць, значыць, што эгіпскае пытаньне разьвязана. Англія толькі раз у сваей гісторыі ня ўмела справіцца з канфліктамі паўстаўшымі паміж мэтраполіяй (цэнтрам) і калёніямі. Гэта было яшчэ ў 18 сталецьці, калі ўпорства Англіі павяло да адарваньня амэрыканскіх калёніяў і да паўстаньня на месцы іх Паўночна-Амэрыканскае рэспублікі. Здарэньне гэтае пашло Англіі на карысць з тых часоў, кожны раз, калі паўстаюць якія-колечы канфлікты ўнутры Ангельскае імпэрыі, дык Англія праўдзіва ўясьняе сабе, на што ёй патрэбна калёнія. Уясьніў галоўную прычыну, Англія трымаецца толькі яе і робіць уступкі калёніі ўва ўсім іншым“.

„Гэтак было ў 1837 годзе з Канадай. Там паднялося паважнае і труднаэ пытаньне аб друх розных нацыянальнасьцях, ангельскай і францускай, аб двух мовах, аб двух культурах. Канадцы дамагаліся самаўрадаваньня, але-ж пытаньне гэтае путалася тым, што ў Канадзе жылі дзьве нацыянальнасьці. Мэтраполія (цэнтр) спачатку няпрыхільна адносілася да жаданьняў Канады і тагды там распачалося паўстаньне. Здавалася, або Англіі прыдзецца вясьці заўзятую вайну і трымаць калёнію аружнаю сілаю, або Канада пойдзе за прыкладам Злучаных Штатаў. І запраўды канадзкія паўстанцы, тагды думалі аб далучэньні Канады да Злучаных Штатаў. І вось, Англія ў 1836 годзе паслала ў Канаду намесьніка (лёрда Дзюрхэм), надаўшы яму самыя шырокія паўнамоцтвы. Кансэрватары ў Англіі думалі, што „паўнамоцтвы“ азначаюць права ўвясьці вайсковы стан рэпрэсіі і казьні... Але-ж Лёрд Дзюрхэм, прыехаўшы у Канаду трафна зразумеў, навошта гэтая калёнія патрэбна Англіі, дык утрымаўшы тое, зрабіў Канадзе уступкі ува ўсім іншым. Канадзе ўдзелена была самая шырокая аўтаномія: яна была абвешчана фэдэрацыйнаю рэспублікаю з двух частак: францускае і ангельскае. Лёрд Дзюрхэм не памыліўся: лёяльнасьць вольнае Канады, якая зьяўляла ўва ўсіх адносінах асобную рэспубліку, адзначылася ў часе паўднёва-афрыканскае вайны (1899—1902) і ў часе вялікае вайны. Навучальны дасьлед Англіі трэба ўспомніць яшчэ і таму, што Канада ў сучасны мамэнт урачыста сьвяткуе шасьцідзесятыя ўгодкі сваей незалежнасьці.

Тую самую здольнасьць праўдзіва адзначаць самае галоўнае, становка трымацца гэтага галоўнага і быць гатовай адступіць у ва ўсім іншым, мы бачым у Англіі цяпер у англа-эгіпецкіх адносінах. Эгіпет патрэбны Англіі не дзеля таго, што яна жадае ўладаць магчыма большым абшарам тэрыторыі; не дзеля імпэрыялістычных імкненьняў, і пэўна не дзеля таго, каб „вызыскваць“ яго. „Вызыск“ старонкі, якая мае свой парлямант і апрацоўвае ўласны бюджэт, пэўна, справа нялёгкая. Ангельская дзяржава складаецца з старонак з розным жыхарствам, якое карыстаецца рознымі мовамі. У аднэй Індыі, напрыклад,—52 мовы, з якіх 12 маюць вялізарную літэратуру. Англія зусім не жадае „энглізіраваць“ усе народы, якія ўходзяць у склад ангельскае імпэрыі. У сілу гэтага Англія, як ведама, нічога ня можа мець проці таго, што Эгіпет пашырыць сваю культуру, якая зьяўляецца сплавам арабскай і эўрапэйскай. Важнасьць Эгіпту для Ангельскае імпэрыі зьяўляецца ў геаграфічным палажэньні даліны ракі Нілу. Эгіпет захоўвае з заходу дарогу да Суэзкага каналу, які прадстаўляе сабою „маждэочак“ Ангельскае імперыі. Адзін удар па гэтаму маждэочку ў часе вайны і дзяржава распадзецца. Англіі не патрэбны Эгіпет сам па сабе, але-ж яна вельмі добра знае, што калі яна адодзе з даліны Нілу, дык ахотнікі захапіць яе знайдуцца зараз-жа; знае гэта і Эгіпет. Самыя ярыя нацыяналістыя вельмі поўна разумеюць, што правізарычная ўлада Англіі непамерна карысней, чым жалезная рука Італіі, напрыклад.

Дык цяпер прыезд караля Фуада ў Англію азначае наступнае: кампраміс знойдзены. Англія робіць яшчэ большыя ўступкі, Эгіпет ува ўсіх адносінах стаў незалежнаю дзяржаваю; абедзьве старонкі ствараюць цяпер моцны прыяцельскі дагавор, які забесьпячае Англіі ахову Суэзкага каналу і гарантуе Эгіпту, што яго не захопіць, які-небудзь „добры“ сусед. А на Эгіпет глядзяць: Італія і Францыя.

Англія, як бачыце, ізноў схапіла самае рэальнае, а ўва усім іншым адступіла.

Як відаць з гэтага нарысу, дык абаім добра, бо Эгіпет бароніць Суэзкі канал ад ворагоў Англіі, а Англія забесьпячае Эгіпту істнаваньне, без „языковых законаў“, якія маем напрыклад мы Беларусы.

# Суд над Барадзіной.

У сваім часе Чанг-Тсо-Лін у Пэкіне зрабіў налёт на савецкае пасольства, дзе быццам знайшоў многа дакумантаў, якія паказвалі, што савецкая пасольства займаецца камуністычнаю прапагандаю ў Кітаі, дык пасьля гэтага распачаліся рэпрэсіі адносна камуністаў. У часе рэпрэсіяў было арыштавана тры дыплёматычныя кур'еры і жонка неафіцыяльнага савецкага прадстаўніка пры кантонскім урадзе Барадзіна.

Кітайскія ўлады ўсіх арыштаваных аддавалі суду і вось, гэтымі днямі, у Пэкіне разглядаецца судовая расправа.

На трэцім судовым паседжаньні,—як падаюць замежныя газэты,—у справе Барадзіной і трох савецкіх кур'ераў, Барадзіна ў сваім апошнім слове адзначала, што пры рэвізіі яе багажа ня было найдзена нічога кампраміцуючага. Гэнэрал Ху, да якога яна зьвярнулася з просьбай засьведчыць гэта, адказаў, што няма патрэбы ў гэтай фармальнасьці і што яна (Барадзіна) будзе звольнена. Барадзіна прасіла выклікаць на суд гэнэрала Ху і капітана карабля як сьведкаў, але яе просьбы суд ня ўважыў.

Далей Барадзіна адказалася ад сваей прыналежнасьці да дакумэнтаў, якія служаць на судзе матэрыялам вінавачаньня яе. Яна заявіла, што ня мела ніякіх адносін да палітычнае працы. — Я, гавора Барадзіна, была арыштавана ў часе паездкі па сямейным справам. Я спадзяюся, што тых пяці месяцаў, якія я прабыла пад арыштам даволі на тое, каб раскрыць праўду. Я спадзяюся, што мы будзем звольнены. Памылка вайсковых уладаў будзе папраўлена.

Разам з Барадзіною вінавацяцца і савецкія кур'еры Крыль, Грэйбус, Сарэ. Яны апраўдываюцца тым, што па свайму палажэньню не маглі падпасьці пад рэвізію кітайскіх уладаў, ды што цераз гэта суд ня мае права іх судзіць. Так сказаць націскаюць на тое, што яны—нятыкальныя.

Адвакаты на аснове гэтакіх дадзеных стараюцца апраўдаць падсудных. Але-ж суд таксама мае вялікі аргумэнт даводзячы, што калі кітайскія ўлады ня мелі права зрэвізаваць савецкіх дыплёматычных кур'ераў, дык апошнія ня мелі права, будучы толькі гэтакімі займацца камуністычнаю прапагандаю і працаю ў Кітаі. Так сказаць, нашла каса на камень...

Справа сама па сабе вельмі цікавая, дык і цікава якія будуць рэзультаты.

Ня меньш цікава і тое, што савецкая ўлада, у гэтай справе, дзе з ею абышліся вельмі некарэктна Чанг-Тсо-Ліноўскія ўлады, што яе ўваўсіх адносінах вельмі балюча датыкае, да гэтых часоў, ніякіх не стараецца зрабіць захадаў і націску на Чанг-Тсо-Ліна, каб зьмяніць долю сваіх кур'ераў.

Кажу што не стараецца, бо тыя маніфэстацыі, якія праходзілі ў Маскве з пагрозамі па адрасу Чанг-Тсо-Ліна значаць тое самае, што пагражаючае ківаньне пальцам ў кішані. Відаць, што сама савецкая ўлада адчувае свае бязсільле, каб зрабіць нешта болей рэальнае у справе вырятаваньня сваіх кур'ераў і грамадзян ад буржуазнае рукі, якая ўжо больш рэальна пагражае ім карай сьмерці.

# З жыцьця Польшчы.

## Фарс ці драма.

Гэтак называе „Robotnik" тое здарэньне, якое зьявілася 13-га ліпеня. Справа ў тым, што эндэкі і сацыялісты за адно, толькі што ўзяліся за розныя праекты, аж тут, як з неба выпала ў ясны дзень... Прэзыдэнт сваім дэкрэтам зачыніў надзвычайную сэсію, як Сойму так і Сэнату.

Пры гэтым здарылася ўвідзець і гэтакую красачку: акурат у часе паседжаньня Сэнату на трыбуну ўзышоў Міністар Унутраніх Спраў пан Складкоўскі і прачытаў дэкрэт аб зачыненьні Сэнату. Новая сэсія, як Сойму так і Сэнату, як кажуць, будзе склікана аж у восені, але-ж у той час канчаюцца паўнамоцтвы, трэба каб адбываліся новыя выбары... Як будзе няведама, бо на тое-ж і выходзе, што іграецца: фарс ці драма?

Мы не шкадуем ні таго ні гэтага. Бо ўсёроўна дрэнна: як і не абрадуе Сойм так і яго абрады; вельмі балюча прыходзіцца нам адчуваць і гэта і тое...

Дык вось, справа ў тым, што маем стычку з нейкай новай сцэнічнай штукай, бо калі ня фарс і ня драма, ну дык што? Можа безпарадак, гаворачы на палітычнай мове, ці nierząd, кажучы папольску. Гэта, дык найпраўдзівей.

## Трывога варшаўскага грамадзянства.

Ужо праз нейкі час варшаўскае грамадзянства мае надта-ж вялікую трывогу. Можа падумаеце аб соймавых справах, мо' аб вайне, мо' аб дарагоўлі, мо' аб няўдачным заканчэньні пазычкі грошай у Амэрыцы? Можа падумаеце яшчэ аб чым болей сур'ёзным? — Калі гэтак, дык не адгадаеце.

Трывожыцца варшавскае грамадзянства, на наш пагляд, маленькаю справаю. Ну проста зусім маленькаю...

Новы міністр п. Медзінскі, новага міністэрства почты і телеграфаў, пэўна не без ведама галавы ўрады ўзяў ды ўвёў да варшавскіх тэлефонаў лічнікі. Гэта на тое, каб лічыць хто колькі часу карыстаецца тэлефонам: хто болей дык і плаці болей, а хто меней дык і плаці меней.

Ужо якіх два месяцы трывожыцца гэтым Варшава — польскае сэрца. А сама справа на наш пагляд няважная. Галоўна — дражлівай, дык у гэтым здаецца і прычына трывогі, а знатнасьць новага міністра новага міністэрства.

# З жыдоускай прэсы.

Д-р Готліб ў артыкуле пад назовам „Многа улады мала таленту" у жыдоўскай газэце „Гаінт" 10 г. ліпеня робіць закіды „санатарам" пасьлямаёваму ці сучаснаму кіраўніцтву Польшчаю фактычнага партацтва. Прыкладам таго партацтва бярэ дэкрэт аб прэсе і тактыка „25" у меставай варшаўскай радзе. Так нязручна і неабдумана, як „25" не захавалася ніякае група, нават жыды. Папросту бачыць у гэным у іх адсутнасьць усякага таленту. Ці можа гэны ёсць звычай гэтакіх людзей, якія служаць асабістаму інтарэсу, (знача карысьці проста здабываюць для сябе, а не для масаў) пытаець Д-р Готліб.

Гэтыя людзі (санатары) не бяручы ніякае адказнасьці на сябе за рэжым (парадак) чакаючы, што ён усё ўрэгулюе гавора аўтар далей:

„Але-ж ён, (тут ужо не цяжка дагадацца, што Марш. Пілсудскі), маўчыць, а вучні блудзяць як стада, калі пастух дрэмле. Ён маўчыць, а вучні ўстанавілі тэлефснічныя і прэсавыя „лічнікі" і здыскрэдытаваліся ў Варшаўскай Меставай Радзе. Быць можа, піша Готліб, паны з маёвага лагеру маюць даволі (колькі трэба) ўлады, каб панаваць над краем, але-ж бракуе ў іх здольнасці, каб правіць краем".

Пад гэтымі словамі д-ра Готліба, якія з „Гаінта" перадрукавала Варшаўская Прэсавая Інфармацыя, 11 г. ліпеня, падпішамся і мы.

Гэтую характарыстыку, аб „маёвам лагеры" уважаем за вельмі трафную.



# Што дзеецца ў сьвеце?

## Справы нацыянальных меньшасьцяў.

Нядаўна адбыліся дзьве канфэрэнцыі нямецкай меншасьці.

Адна канфэрэнцыя адбылася ў Рэвелі ў Эстоніі, а другая ў Рызе ў Латвіі. На канферэнцыі былі прысутнымі прадстаўнікі нямецкай нацыянальнасьці грамадзян ад розных дзяржаў Эўропы.

Мэтаю нямецкіх канфэрэнцыі былі падгатавацца да агульнае канфэрэнцыі нацыянальных меншасьцяў, якая мае адбыцца на канчатку жніўеня г. г. ў Жэневе.

Не ўходзячы ў сутнасьць пытаньняў, якія маюць спэцыяльны інтэрэс для нямецкай нацыянальнасьці, газэты адзначаюць, што сярод дакладаў на кафэрэнцыях у Рэвелі і Рызе, былі гэтакія, што абгаварвалі тэмы цікавыя нагул для нацыянальных меньшасьцяў.

## Самагубства фінансавага караля.

Прычынаю самагубства сталася тое, што Джэме Цайт прадбачыў поўнае банкруцтва сваей „фірмы". Эн закупіў вялікую колькасьць акцыяў, якія маглі даць яму 15 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў даходу, аднак-жа сталася так, што гэтая біржавая апэрацыя дала яму вялікую матэрыяльную страту. І вось не перанёсшы гэтага ўдару Джэме Цайт атруціўся.

Джэме Цайт у сваёй моладасьці быў вельмі бедным, але-ж дзякуючы розуму, адвазе і здольнасьці нажыў мільёны, аднак-жа пры першым няшчасьці ня вытрымаў, відаць, што натугі пры здабываньні багацьця растроілі нэрвы. А яшчэ відаць, што цяжка разьвітацца з багацьцем і славаю.

## Трасеньне зямлі ў Палестыне і Эгіпце.

У Эгіпце і ў Палестыне ў сьвятой зямлі здарылася трасеньне. Згодна афіцыяльных вестак, пры трасеньні зямлі ў м. Налбуце, забіта на сьмерць 62 і ранена 250 чалавек. У Каіры, сталічным месцы Эгіпту, забіта 300 чалавек. Трасеньне зямлі цягнулася 40 сэкундаў, сярод жыхарства выклікала вялікі жах і трывогу.

У Ерузаліме, сталічным месцы Палестыны, забіта 30 і ранена 70 чалавек. Чалавечыя ахвяры ад гэтага трасеньня зямлі заўважаны ў 20 местах і сялібах. Уцярпеў гмах ерузалімскага жыдоўскага ўнівэрсытэту. Трасеньне зямлі адчувалася і ў Трансінрданіі, якая паложана ў суседстве Палестыны.

## Радавы Саюз.

— Пасьля разрыву дыплёматычных зносінаў з Англіяй, лічачы, што гэта можа выклікаць вайну, урад Савецкага Саюзу вельмі старанна ўзяўся за ўмацаваньне сваей аружнае сілы. У гэтых мэтах абвешчана „тыдзень абароны" сутнасьць гэтага тыдня ў тым, што будуць устраівацца мітынгі і сабраньні, на якіх прамовамі выдатнейшых камуністычных дзеячаў шырокія масы расейскага народу, будуць псыхілягічна падгатаўляцца ў выпадку вайны на абарону пралетарскае дзяржавы, а таксама адбудуцца матэрыяльныя зборы на тэхнічныя прылады абароны.

„Мы заўсёды павінна быць гатовымі, як тэхнічна так і адносна мабілізацыі сіл і сродкаў савецкага грамадзянства, каб выступіць проці нападу на нас, дык знача тыдзень абароны будзе першым экзаменам гатоўнасьці грамадзянства на гэта"—сказаў савецкі старшыня Калінін.

— У Маскве бальшавікі арыштавалі і пасадзілі ў вастрог мітрапаліта Сяргея, які пасьля сьмерці патрыярха Ціхана астаўся заступнікам і ахоўцаю патрыяшаства.

Мітрапаліт Сяргей арыштаваны за тое, што савецкая ўлада лічыць яго небясьпечным для ўлады, калі ён будзе на вольнасьці, дык трэба ізаляваць.

— У Маскве растралялі правакатара Дружылоўскага, які як агент савецкай чэразвычайкі служыў савецкай уладзе, а таксама некаторым другім уладам.

Пры гэтым, што даведаецца аб Саветах, перадаваў іншым дзяржавам, а што даведаўся ад іншых, перадаваў другім. Разумеецца, за сваю „працу", атрымоўваў ад усіх грошы.

## Госьці на Балтыцкім моры.

Балтыйскае мора, а пераважна дзяржаўкі суседнія з Савецкім Саюзам, як Латвія, Эстонія і Фінляндыя мёдам пахне, бо сёлета вельмі многа адведала заморскіх гасьцей. Нядаўна Ангельская эскадра распачала падарожу па партавым прыбалтыцкім местам названых дзяржаўкаў, а вось сьледам за ею сьпяшаецца пагасьціць і Амэрыканскі флот.

Не прапусьціла мамэнту і Нямеччына, яна таксама сям-там пабывала, сюды-туды заглянула сваім флотам, ад якога пасьля вайны асталіся толькі перынкі.

# Аб справах Нацыянальнага Камітэту.

Прызыдыум Беларускага Нацыянальнага Камітэту падпаўшы пад уплывы Грамады, а праўдзівай яе беспартыйнага сябры А. Луцкевіча, увесь час нічога не рабіў. Усякія зварачваньні сяброў камітэту да прэзыдыуму аб неабходнасьці працы аставаліся безрэзультатнымі, а нават не далі пажаданых вынікаў перагаворы аб скліканьні сходу сяброў Нацыянальнага Камітэту.

Бачачы, што прэзыдыум Камітэту яўна ігнаруе нацыянальныя інтарэсы, сябры Камітэту змушаны былі ўзяць на сябе ініцыятыву і склікаць сход, каб абгаварыць справы Нацыянальнага Камітэту.

А дзеля гэтага былі разасланы запросіны ўсім установам, якія маюць права мець прадстаўнікоў у Нац. Кам. у мэтах, прыслаць гэтакіх на агульнае сабраньне.

Пераважная большасьць беларускіх установаў прыхілілася да справы і гэтакім парадкам адбыўся сход 2 г. ліпня, на якім пасьля высьненьня ўсіх дэталей і па выкананьні фармальнасьцяў быў выбраны новы прэзыдыум Нац. Камітэту, а юрыдычна, гэтакім чынам, стары прэзыдыум утраціў свае правы і паўнамоцтвы.

Пасьля гэтага ня будучы ўжо старшынёю Нац. Кам. гр. Савіцкі выдаў камунікат бароначы сваё права на старшынства і разаслаў запросіны сябрам даўнейшага складу Камітэту на сход, які меў адбыцца 13 г. ліпеня.

Беларускі Нацыянальны Камітэт у новым складзе зьвярнуўся да гр. Савіцкага з гэтакім паведамленьнем.

Яго Міласьці

Гр. САВІЦКАМУ

ў Вільні.

Гэтым паведамляем Вам, што на адбытым 2 ліпня с. г. агульным сходзе Беларускага Нацыянальнага Камітэту выбраны новы прэзыдыум Бел. Нац. Камітэту ў складзе наступным: Старшыня—сэн. В. Багдановіч, заступнік старшыні—пас. Ф. Ярэміч, сэкрэтар П. Каруза.

У сувязі з вышэй зьмешчаным, ад дня 2 ліпня праўным прэзыдыумам зьяўляюцца сябры выбраныя на апошнім агульным сходзе камітэту, якія выключна правамочны рэпрэзантаваць Камітэт і вясьці ад Камітэту працу. Ад дня 2-га ліпня с. г. асобы, якія да гэтага часу лічыліся прэзыдыумам ня маюць юрыдычнага права выступаць ад імя Камітэту, дзеля гэтага зьмешчаны ў нумары 28 „Нашае Праўды" камунікат Прэзыдыуму Белар. Нацыян. Камітэту, а такжа запросіны падпісаныя гр. Савіцкім на паседжаньне Камітэту 14-га г. м. а 5 гадзіне, як і сам сход зьяўляюцца незаконнымі.

Адначасна з гэтым просім Вас перадаць нававыбранаму прэзыдыуму Бел. Нацыян. Камітэту усе справы Камітэту.

(—) П. Каруза
Сэкрэтар.

(—) Ф. Ярэміч
Старшыня.

## Нямеччына.

Паводка, якая ахапіла вялікія абшары натварыла многа шкоды. Толькі ў Саксоніі аблічваюць на 70 мільёнаў марак страты.

У пацярпеўшых ад паводкі мясцовасьцях Саксоніі было некалькі здарэньняў вар'яцтва з людзьмі дазнаўшымі стратаў. Наведала Нямеччыну і другая бяда, бо над Бэрлінам прайшла вялікая навальніца, якая таксама натварыла многа бедаў месту.

## Англія.

Прадстаўнікі работніцкае партыі ў парлямэнце запрапанавалі выразіць няверу Ангельскаму ўраду. Аднак-жа парлямант пераважнай большасьцю адкінуў гэтую прапанову, а гэтакім чынам урад астаецца той самы. Урад ангельскі складаецца з кансэрватараў, самай буржуазнай партыі і гэта ў той старонцы, дзе таксама як і на ўсім сьвеце пануе безрабоцьце. У Англіі налічваецца 1.093.600 безработных, але, усё-ж такі на 591.470 чалавек меней як у леташнім годзе, хоць і цяпер звышковая тэндэнцыя, як кажуць біржэвікі, бо за тыдзень палку безработных прыбыло на 48.687 чалавек.

Апрача, як я сказаў агульнага ліха безрабоцьця, ня мінулі Англію і стыхійныя беды, якія таксама гуляюць па сьвеце. Гэтымі днямі прашла над Лёнданам, ну разумеецца і над яго ваколіцамі, вялікая навальніца, якая нарабіла вялікіх стратаў.

*Сяляне! Запісвайцеся у Беларускі Сялянскі Саюз!*

# НАВІНЫ.

— **„Наш Прамень“.** У Празе Чэскай вышла часопісь „паступовага студэнцтва“ пад назовам „Наш Прамень“ № 1, чэрвень 1927 г. Часопісь зрэдагавана ламанай маладнякоўска-беларускай мовай. Відаць арыгіналы артыкулаў былі пісаны ў расейскай мове, а пасьля тлумачаны на беларускую. Памінаючы справу мовы, якая заўсёды ў друку павінна мець першараднае значэньне, (для выдаўцоў „Н. Праменя“ гэта на апошнім пляне) сам зьмест часопісі за лішне вузка партыйны і затым нічога добрага чытачу не дае. Замест паважных артыкулаў знойдзем там шмат лаянкі, і нааул гнільля, запажычанага ад усім вядомых „Нашых Праўдаў“, і іншых правакатарскіх часопісаў, што маюць на мэце разьбіваць беларускі адраджэнскі сялянскі рух.

— **У справе „Народу“ без народу.** „Беларуская Крыніца“ зьмясьціла пратэст беларускіх студэнтаў у Празе-чэскай, сяброў Беларускага Студэнскага Сялянскага Саюзу, якія выступілі проці Я. Станкевіча і яго імкненьня разьбіць беларускі сялянскі рух.

Студэнты ў сваім пратэсце пішуць, што іх саюз ніякіх паўнамоцтваў Янцы Станкевічу не даваў і яго паступкі лічыць шкоднымі для беларускага сялянства.

— **Грамадзянскі суд.** Гр. Ст. Сьвяневіч, паляк — дэмакрат, супрацоўнік „Kurjera Wileńskiego“, зьвярнуўся да некатарых грамадзян з прапановаю, справіць суд над яго дзейнасьцю ў справе яго супрацоўніцтва з паслом Ваявудзкім. Грамадзянскі суд Ст. Сьвяневіча апраўдаў. Падрабязьней абгаворым гэтую справу ў наступным нумары.

## Як у нас прайшлі выбары у валасныя самаурады.

Выбары ў валасныя самаўрады у нашым Нясьвіскім павеце, можна сьмела сказаць, што прайшлі пад сьцягам нацыянальна-беларускім. Сяляне забылі на момант партыйную грызьню, асабістыя парахункі, а кіраваліся на выбарах аднею мэтаю, а іменна: правясьці, як-мага больш у валасныя рады, сваіх сялянскіх прадстаўнікоў. Такое выразнае становішча сялян, прынясло беларускую большасьць ва усіх валасьцях павету. Такім парадкам у Грыцэвіцкай валасьці у раду прайшло 8 беларусаў, з якіх 6 сьвядомых і 2 несьвядомых, 2 палякоў; у Сіняўскай — 10 бел., 1 жыд, 1 паляк; у Клецкай на 10 радных—8 белар., 2 палякі; у Ланьскай—6 белар., 4 палякі; у Заостравецкай на 10 радных—10 беларусаў. Вось гэтая большасьць, была-б яшчэ большаю, калі-б сяляне йшлі на выбарах адзіным сялянскім сьпіскам. На жаль у некаторых валасьцях гэтага ня было. Так у Грыцэвіцкай воласьці было 5 сьпіскаў, у Ланьскай 4, у Клецкай 3 сьпіскі. Дзякуючы гэтаму у Грыцэвіцкай і Ланьскай валасьцях прапала па аднаму пэўнаму мандату. Палітычны напрамак выбраных радных — чыста сялянскі клясовы. Падліжніцкага элементу няма—ня толькі Паўлюкевіча не заўважана.

Аб тым, што незалежная сялянская, клясавая думка, мае перавагу над усім гэтымі, паказуе хацяж-бы такі факт, што на выбарах у Грыцэвіцкай валасьці, у кожнага сябра валаснога сабраньня, была прынесена з сабою газэта „Сялянская Ніва“. 4-га ліпеня у Грыцэвіцкай і Сіняўскай валасьцях, адбыліся выбары валасных управаў. У абедзьвюх валасьцях на войтаў, заступнікаў г. лаўнікаў, прайшлі беларусы. Ці справяцца новыя валасныя рады з балячкамі нашае вёскі, пакажа недалёкая будучына.

Мужычок.

## НАШАЯ ПОШТА.

**М. Паканечнаму:** Пробны нумар пасылаем. Далей бяз грошай пасылаць ня будзем. Калі хочаце атрымліваць газэту, дык шліце грошы. Да канца году з 1 жніўня падпіска будзе каштаваць 4 зл.

**М. Рамэйку:** На рэклямацыю дырэкцыя пошты адказала, што газэта прыходзе на пошту Ляховічы рэгулярна і адсылаецца ў воласьць, а воласьць праз солтысаў павінна аддаваць падпішчыкам.

**Лявону Віннічку:** Падпіскі Вашай не атрымалі, праверце на пошце. Газэту пакуль што пасылаем.

**Машару, М. Салагубу, С. Шэйну, Яз. Шарціку:** Газэту пасылаем, чакаем на падпіску.

**Дасталі ад:**

Кухарчука Івана 4 зл., Тэрэбэзя Ю. 3 зл., Мароза Віктара, Кайдака Сьцяпана па 2 зл.

## На школьны фронт.

Але, на школьны фронт, пасьля каротката перарыву, нам беларусам, трэба кінуць усе свае сілы, і пакіраваць усю сваю энергію. Трэба зараз-жа скарыстаць з добрай сытуацыі, якая складалася для беларускага селяніна ў сувязі з выбарамі ў валасныя самаўрады. Хоць выбары ў самаўрады, яшчэ ня ўсюды закончаны, але можна ўжо сказаць, што большасьць будзе беларуская. Можна спадзявацца, што і ўправы валасьцей у болей значнай часьці, так сама будуць беларускія.

Усё гэта, вялікія козыры дзеля здабычы роднай беларускай школы. Дык трэба ня ўпусьціць моманту. Зараз-жа пасьля жніва, нашае сялянства павінна заваліць павятовыя школьныя інспэктарыяты сваімі дэклярацыямі аб жаданьні роднай школы. Я кажу, заваліць школьныя інспэктарыяты дэклярацыямі літэральна, бо толькі масавай падачай дэклярацыяў, мы зможам папхнуць справу аб школах з мёртвага пункту. Гэта самы найлепшы і пэўнейшы спосаб. Чакаць роднай школы, нічога ня робячы вельмі шкодна. А роднай беларускай школы неабходна трэба. Я ня буду гаварыць аб значэньні навукі ў зразумелай, матчынай мове, скажу толькі тое, што кожны бацька, кожны Беларус, калі хоча, каб яго дзеці ня чураліся роднай хаты, калі хоча, каб не калечылісь-бы маладыя думкі, павінны парупіцца, каб была беларуская школа. Толькі родная школа, узгадуе моладзь, здольную шанаваць сваю сям'ю і народ.

Дзеля гэтага на школьны фронт нашае сялянства ў гэтым годзе павінна ізноў ісьці проста валам. Толькі прыступам, мы зможам заваяваць і здабыць усё сваё роднае, а тым болей школу. Зразумела, што калі гэта, будзем рабіць масава, арганізована, цяпер, пры дапамозе беларускіх валасных рад, гэта праца будзе нам шмат лягчэйшаю. З вышэйсказанага відаць, што сялётнюю кампанію за родную беларускую школу, мы павінны правясьці, як мага арганізаванна, масова, засыпаючы адпаведныя ўлады дэклярацыямі. Ня трацьма часу! На школьны фронт усе жывыя сілы Беларускага Народу!

Хай жыве Беларуская Школа!

К. М.

## Адказ на пытаньне

Мы атрымалі гэтакае запытаньне: Каровы хварэюць на крываўку. Зразу зьяўляецца вялікае растройства жалудка і моча з крывёю. Каровы за яду не бяруцца. Чым гэта лячыць і як уратаваць другія каровы ад гэтае хваробы?

З усяго гэтага можна выясьніць, што напісаць рэцэпт лячэньня крываўкі з Вільні немагчыма. У справе гэтай неабходна зьвярнуцца да ветэрынара на месцы, як найхутчэй, бо хвароба вельмі страшная і небясьпечная. Калі не рабіць ратунку, дык каровы могуць здыхаць.

Каб адказаць на такое пытаньне, дык мусім абгаварыць гэтакае здарэньне і прычыны паўстаньня гэтае хваробы.

Крываўка можа быць ў скаціны і ад іншых прычынаў, але ж найчасьцей дык ад наступнае. Неабходна перадусім адзначыць, што хвароба найчасьцей здараецца у скаціны, якая пасецца на лясных, або кустарнікавых пасьбішчах.

Прычыны гэтага такія. У гэтакіх мясцовасьцях жывуць маленькія ня бачаныя звычайным вокам — жывёлкі, чарвячкі ці як іх называюць—мікробы. І вось гэтыя чарвячкі разам з травою скаціна зьядае. Папаўшы ў сярэдзіну яны ня гінуць, а наадварот жывуць і множацца. І вось, даходзіць да таго, што выклікаюць крываўку. Выпадкі хваробы з гэтае прычыны рэдка здараюцца, калі скаціна пасецца на гэтакім пасьбішчы з маленькага цялятка, а калі пападае ўжо старэйшаю скацінаю дык ізноў рэдка здараецца каб не адхварэла. Прапажы скаціны ад гэтае хваробы вельмі часта здараюцца. Дзеля таго, што з запытаньня нельга даведацца якое у вас пасьбішча, дык таксама нельга трафна акрэсьліць прычыны хваробы. Але-ж у кожным выпадку становўка радзім, зараж-жа зьмяніць пасьбішча гэтак лясавое, або кустанікавае на палявое. Хворую скаціну аддзяліць асобна ад здаровае, як на пасьбішчы, гэтак сама і ў хляве. Не пускаць хворае скаціны туды, дзе пасецца здаровая і наадварот.

Лячыць самую хваробу трэба зьвярнуцца да ветэрынара.

Нам-жа прышліце гэтакае выясьненьне: якое у Вас пасьбішча: лугавое, лясавое, палявое? Ці скаціна заўсёды (знача і у мінулые гады) там пасьвілася ці толькі сёлета?.

На аснове вашага паведамленьня можна будзе парадзіць нешна іншае, больш рэальнае і карысьнейшае.

# Да нас пішуць.

### З сялянскага жыцьця.

(Нясьвіцкі павет).

Даўненька я ўжо ня пісаў у „Сялянскую Ніву“, аб жыцьці сваей старонкі. Штодзенныя турботы ды гэныя перашкоды, былі замешкаю ў гэтым. Выбраў нарэшцэ свабодную гадзінку, я і сьпяшу накідаць некалькі радкоў аб нашым сялянскім жыцьці. Тая стыхійная катастрофа, якая шалела 14—15 червеня не мінула і нашага, Нясьвіскага п. Селяніну дасталося горш за ўсіх. Слабая сялянская будова, як пух ляцела ў паветра, ад першай моцнай хвалі ветру. Можна налічыць цэлыя дзесяткі вёсак, дзе гэта катастрофа натварыла значныя шкоды.

Шмат шкоды прычынілі гэтыяураганы і фруктовым садам, асабліва маладым дрэўкам. Ёсьць таксама шмат павалу і ў лясох. З гэтай аказыі, сялянства чакала танных дроў, але памылілася. Дровы не патанелі, а падаражэлі. Так у лясьнітцвах Радзівіла, замест 80 ці 50 гр. за мэтр такога павалу, трэба плаціць 11 зл. Не пашкадаваў сялянскай працы і град. Шмат вёсак, як напр.: Слабода, Масьціловічы, Касьмовічы, град пабіў палавіну ўсяго пасеянага хлеба. Уцярпелі людзі і ад пяруна. Ня гэтак даўно ад удару пяруня, згарэла палавіна вёскі Заполье, згарэла нешта 15 хатаў і ў вёсцы Драпаўшчына; былі пажары і ў іншых вёсках.

У вёсцы Цопра, ударам пяруна, забіты чалавек, некалькі паранена. У сувязі з гэтымі праявамі прыроды, ідуць па вёскам чуткі, што будзе вялікая вайна. Дзівуюцца нашыя сяляне, што ўлады, раптам пачалі правіць дарогі, брукаваць грэблі і інш. Як даўней, так і цяпер, балей за ўсіх дастаецца селяніну. Плаці дарожны падатак, працуй з лапатай, працуй з канём, у дадатак дай падатку. Шмат, хто ўжо даўно адрабіў сваю ўзложаную павіннасьць, але яго ўсё роўна прымушаюць вазіць пясок, абяцаючы за гэта збавіць падаткі на будучы год. Пажывем — пабачым!..

Гаспадар.

### Цярпеньня не хапіла...

(Пружаншчына).

У сялян м. Селец супольна з абшарнікам Селецкага маёнтку ёсьць сэрвітут. Усемагутны абшарнік прысвоіў сабе гэны сервітут і прадаў яго, бяз ведама сялянства. Як і ўсюды, іх ня мала і ў м. Сельцу, знайшліся гэткія вырадкі ў асобах тракціршчыка ды яшчэ аднаго жыхара таго-ж мястэчка, якія і купілі ў абшарніка, 20 дзес. сэрвітуту. Абгарадзілі і засеялі. Сяляне падалі ў суд. Але не чакаючы вынікаў суду, і ня могучы больш сьцярпець гэткага зьдзеку, у адзін пекны дзень сабраліся ўсе мужчыны і жачыны, выламалі і павыкідалі плот ды пусьцілі на пасевы скаціну з усяго мястэчка. Зараз зьявілася паліцыя, але не магла перашкодзіць апусташэньню, ня гледзячы на пагрозы стралянінай у верх і маханьнем шаблямі.

Вось да чаго могуць давясьці спакойных сялян зьдзекі паноў!

Але усё-ж такі дзіўна, што паліцыя толькі пагражала і нікому гэтым разам не махнула гэтак, каб ён перамахнуўся ў новы сьвет.

Полымя.

## КУТОК СЬМЕХУ.

### На польскі лад.

— Чаму гэта газэта „Бел. Дзень“ увяла „Куток для мацярок“, а не „Куток для матак“?

— Бо „Бел. Дзень“ усё бярэ з польскага, а на польскай мове „мацёра“. — гэта сьвінка, што прывяла парасят.



Рэдактар і выдавец К. Мацкевіч. Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.